Вучэбнае выданне

ГАГАРЫНА СВЯТЛАНА ФЁДАРАЎНА

ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК
ПА ПРАЦОЎНАМУ НАВУЧАННЮ

Карэктар А.В.Сідарэнка

Падпісана ў друк 23.09.94. Фармат 60x84 1/16.
Папера друк № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,0.
Ум. фарб.-адб. 9,36.
Ул.-выд. арк. 0,8. Тыраж 150 экз. Заказ 975.
Цана 750 р.

Ратапрынт БДПУ. 220809, г.Мінск, вул. Савецкая, 18.

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК
# ПА ПРАЦОЎНАМУ НАВУЧАННЮ

Мінск 1994

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета БДПУ

Тлумачальны слоўнік змяшчае пытанні працоўнага навучання, звязаныя з рознымі тэмамі праграмы. Мэта слоўніка даць тлумачэнне шэрагу тэрмінаў, абумоўленых спецыфікай працоўнай падрыхтоўкі малодшых школьнікаў.





## АД СКЛАДАЛЬНІКА

Змест тлумачальнага слоўніка адлюстроўвае пытанні працоўнага навучання, звязаныя з рознымі тэмамі праграмы.

Мэта слоўніка — даць тлумачэнне шэрагу тэрмінаў, паняццяў, абумоўленых спецыфікай працоўнай падрыхтоўкі малодшых школьнікаў, і тым самым у некаторай ступені дапамагчы настаўнікам пачатковых класаў і студэнтам факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання ў падрыхтоўцы і правядзенні ўрокаў працоўнага навучання. Падаюцца таксама некаторыя звесткі даведачнага характару.

Тлумачэнне настаўнікам тэрмінаў, паняццяў на ўроках працоўнага навучання і разуменне іх вучнямі, з аднаго боку, будзе павышаць эфектыўнасць урокаў працоўнага навучання, а з другога — будзе прывучаць іх працаваць з даведачнай літаратурай.

У слоўніку змешчаны найбольш ужывальныя тэрміны і паняцці ў алфавітным парадку.

Пры складанні слоўніка выкарыстаны тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы і даведнікі, а таксама вучэбна-даведачная літаратура.

А

*АБВЕСЦІ* — абчарціць лініямі, рыскамі. Прачарціць па намечаных контурах.

*АБЕЯЗАЦЬ* — замацаваць або ўпрыгожыць вязаю краі чаго-небудзь.

*АБДУМАЦЬ* — папярэдне ў думках разгледзець усе магчымыя акалічнасці, дэталі чаго-небудзь; усебакова ўзважыць; падумаўшы вырашыць.

*АБМОТКА* — усякі матэрыял для абмотвання чаго-небудзь.

*АБОРКА* — нашытая палоска матэрыі.

*АБРАМЛЕННЕ* — тое, што акружае, як рамка.

*АБСЛУГОЎВАННЕ ПРАЦОЎНАГА МЕСЦА* — забеспячэнне працоўнага месца сродкамі, рэчамі працы і паслугамі, неабходнымі для ажыццяўлення працоўнага працэсу.

*АБЦУГІ* — металічны інструмент, які выкарыстоўваецца ў кавальскай справе для захоплівання і заціскання жалеза.

*АБ'ЕКТ ПРАЦЫ* — усё тое, на што накіравана якая-небудзь дзейнасць чалавека.

*АГУЛЬНАКАРЫСНАЯ ПРАЦА* — праца, якая ўключае разнастайную працоўную і грамадскую дзейнасць чалавека, накіраваную на задавальненне якіх-небудзь грамадскіх патрабаванняў і патрэб. Гэта найбольш важны фактар маральнага, працоўнага і фізічнага станаўлення асобы.

*АДВЁРТКА* — слясарна-зборачны інструмент для закручвання і выкручвання шрубаў.



*АДЛЕГЛАСЦЬ* — прамежак паміж двума прадметамі.

*АДМЕРАЦЬ* — мераючы, аддзяліць або адзначыць пэўную колькасць чаго-небудзь.

*АДНОЛЬКАВЫ* — такі, які нічым не адрозніваецца ад іншых, такі самы.

*АДХОДЫ* — рэшткі якой-небудзь вытворчасці, што могуць быць выкарыстаны ў іншых мэтах.

*АДЦЕННЕ* — разнавіднасць якога-небудзь колеру.

*АЖУРНЫ* — (ад франц. *a jour* — скразны) — кружаўны, умела і тонка зроблены (ажурная работа — умела і тонка зробленая).

*АКАНТОЎКА* — апрацоўка краю вырабу, дэталі палоскай апрацоўчых матэрыялаў ці тасёмкай з мэтай перасцярогі ад асыпання краю ці для ўпрыгожвання.

*АЛОВАК* — прылада для пісьма, чарчэння, малявання ў форме тонкай палачкі з графітавым або іншым сардэчнікам.

*АНСАМБЛЬ* — стройнае адзінства частак чаго-небудзь цэлага (франц. *ensemble* — разам).

*АПЕРАЦЫЯ* — (ад лац. *operatio* — дзеянне) — дзеянне ці шэраг звязаных паміж сабой дзеянняў, накіраваных на рашэнне адпаведнай задачы.

*АПЛІКАЦЫЯ* — (ад лац. *applicatio* — прыкладванне, наклейванне) — спосаб стварэння арнаменту, мастацкага ўзору або малюнка шляхам наклейвання (нашыўкі) на што-небудзь кавалачкаў рознакаляровай матэрыі, паперы і іншага матэрыялу, якому прыдаюць форму ў адпаведнасці з малюнкам; адлюстраванне, узор, зроблены такім спосабам; выкарыстоўваецца для ўпрыгожвання.

*АРНАМЕНТ* — (ад лац. *ornamentum* — упрыгожванне) — гэта ўзор, пабудаваны на рытмічным чаргаванні выяўленчых элементаў. Асноўнае прызначэнне — упрыгожыць прадмет, падкрэсліць форму, прыгожасць выкарыстоўваемага матэрыялу.

*АРЫГАМІ* — (япон. *ары* — згінаць, *гамі* — папера) — спосаб атрымання вырабаў з паперы шляхам згінання.

*АСНОВА* — далявыя ніці ў тканіне.

*АХОВА ПРАЦЫ* — сістэма прававых, тэхнічных і санітарных нормаў, забяспечваючых небяспечныя для жыцця і здароўя працоўных ўмовы выканання працы.

**Б**

*БРЫГАДА* — (франц. *brigade*) — група людзей, сумесна выконваючых пэўны комплекс работ. Вытворчыя брыгады бываюць спецыялізаваныя і комплексныя.

*БІЧОЎКА* — атрыманне паглыбленых бараздак (бігаў) на месцы будучага згібу. У школьных умовах нанясенне бараздак можна рабіць прасоўкай ці канцом нажніц.

**В**

*ВАЛАКНІСТЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ* — ніці, папера, ірыс, мулінэ, сутаж, тасьма і інш.

*ВАЛОКНЫ ПРЫРОДНЫЯ ТЭКСТЫЛЬНЫЯ* (натуральныя) — валокны раслiннага (лён, пянька, бавоўна), жывёльнага (натуральны шоўк, шэрсць) ці мінеральнага (азбест) паходжання, прыгодныя для вырабу пражы.

*ВАЛАКНО* — клетка жывёльнай ці раслiннай тканкі ніткападобнай формы; тонкая няпрадзеная ніць раслiннага, 



мінеральнага ці штучнага паходжання.

*ВАРЫЯНТ* — разнавіднасць чаго-небудзь (ад лац. *varians, variantis* — які змяняецца).

*ВОПРАТКА* — выраб ці сукупнасць вырабаў, якія апранае чалавек. Яна стварае камфорт, які дазваляе зберагчы здароўе і працаздольнасць у розных умовах.

*ВОПЫТ* — заснаванае на практыцы пазнанне аб'ектыўнай рэчаіснасці; сукупнасць ведаў, уменняў, навыкаў, атрыманых з жыцця і практычнай дзейнасці.

*ВЕШАЛКА* — дошка, паліца або стойка з кручкамі ці калочкамі, на якія вешаюць адзенне.

*ВУГАЛ* — 1. Месца, дзе сутыкаюцца два бакі аднаго прадмета; 2. Частка плоскасці паміж дзвюма прамымі лініямі, якія выходзяць з аднаго пункта.

*ВЫКРАЙКА* — узорная форма, па якой кроюць часткі адзення, абутку.

*ВЫШЫВАННЕ* — адзін з відаў народнай прыкладной творчасці. Адрозніваюць ручное і машыннае вышыванне.

*Ручное вышыванне* выконваюць па малюнку, нанесенаму на розную тканіну і па ліку ніцей тканіны (лічбавая вышыўка — мярэжка).

*Машыннае вышыванне* таксама выконваюць па малюнку, прыфастрычгаванаму да тканіны, якую змяшчаюць у пяльцы і абстрочваюць па контуру. На машынцы можна выканаць каляровую і ажурную гладзь.

**Г**

*ГАБЕЛЕН* — вытканы рукамі дыван-карціна. Яго ткуць з каляровых шаўковых ці шарсцяных ніцей асобнымі часткамі, якія потым сшываюць.

*ГАЕЧНЫ КЛЮЧ* — прылада для замацавання або адкручвання гаек.

*ГАЙКА* — металічная дэталь розных форм з адтулінай, што мае вінтавую разьбу для накручвання на што-небудзь.

*ГЛАДЗІЛКА* — прылада ў выглядзе валіка або лапаткі для разгладжвання скур, паперы і пад.

*ГЛАДЗЬ* — разнавіднасць ручнога ці машыннага вышывання. Уяўляе сабой суцэльныя шчыльна прылягаючыя адзін да аднаго сцяжкі.

*ГУМІРАВАНАЯ ПАПЕРА* — папера, загадзя пакрытая клеявым растворам.

*ГУСТ* — адчуванне, разуменне прыгожага і здольнасць даваць эстэтычную ацэнку.

**Д**

*ДОБРЫ БОК* — знешні бок матэрыялу, дэталі, вырабу.

*ДОГЛЯД ЗА ВОПРАТКАЙ* — веды і ўменні, а таксама адпаведныя дзеянні па папярэджванню псавання і несвоечасовага зносу адзення.

*ДЫСЦЫПЛІНА* — пэўны парадак паводзін людзей, які адказвае складзеным у грамадстве нормам права і маралі, а таксама патрабаванням той ці іншай установы.

*ДЭКСТРЫН* (дэкстрынавы клей) — гэта крухмал, апрацаваны серкай кіслатой ці награваннем. Дэкстрын жоўтага колеру добра раствараецца ў вадзе хатняй тэмпературы. Белы дэкстрын раствараецца толькі ў цёплай вадзе.

*ДЭТАЛЬ* — частка цэлага.



*ДЭФЕКТ* — загана, недахоп.

**І**

*ІГОЛКА* — завостраны металічны стрыжань з вушкам для ніці, якая выкарыстоўваецца для шыцця. Адрозніваюць іголкі *машынныя* і *ручныя*. Ручныя дзеляцца на звычайныя і цыравальныя. Звычайныя выпускаюцца пад нумарамі (12 нумароў), якія адрозніваюцца даўжынёй (ад 35 да 80 мм) і дыяметрам (ад 0,6 мм да 1,8 мм). Цыравальныя іголкі маюць некалькі прытупленае вастрыё і падоўжанае вушка ў параўнанні са звычайнымі. Машынныя іголкі адрозніваюцца ад ручных не толькі таўшчынёй, але і канструкцыяй. Яны могуць быць прамымі, выгнутымі.

*ІНСТРУМЕНТ* — прылада чалавечай працы ці выканаўчы механізм машыны. Адрозніваюць ручныя, станочныя і механізаваныя (ад лац. *instrumentum* — прылада).

*ІНСТРУКЦЫЯ* — (ад лац. *instructio* — настаўленне) — указанне аб парадку выканання якой-небудзь работы, указанне па карыстанню машынай, прыборам і г.д.

**К**

*КАЛЬКА* — спецыяльна апрацаваная празрыстая папера або тканіна, пры дапамозе якой робяць дакладныя копіі з чарцяжоў і малюнкаў.

*КАМПАЗІЦЫЯ* — (ад лац. *compositio* — складанне) — будова мастацкага твора, творчай працы, якая абумоўлена яго зместам, назначэннем, размяшчэннем і ўзаемасувяззю яго частак, якія ўтвараюць адзінства цэлага.

*КАНВА* — рэдкая сятчатая тканіна, баваўняная або льняная. Прымяняецца як аснова пры вышыванні крыжам.

*КАНСТРУКТАР* — набор дэталяў і матэрыялаў для канструявання.

*КАНСТРУКЦЫЯ* — будова, пэўнае размяшчэнне частак, дэталяў якога-небудзь збудавання, механізма.

*КАНСТРУЯВАННЕ* — працэс стварэння вучнямі тэхнічных аб'ектаў з частковым ці поўным выкананнем пасільных для іх праектаў і разлікаў.

*КАНТ* — палоска, кайма, якая абрамляе малюнак, фотакартку, табліцу і пад.

*КАПРОН* — штучнае валакно высокай трываласці з сінтэтычнай поліамідная смалы.

*КАПТАЛ* — кавалачак каляровай тасьмы, якая больш надзейна замацоўвае сшыткі кніжнага блока і ўпрыгожвае кнігу з абодвух канцоў карэньчыка.

*КАРДОН* — тоўстая цвёрдая папера асобага вырабу і рознага прызначэння.

*КАРУНКІ* — ажурныя, сятчастыя вырабы з ільняных, шаўковых і іншых нітак для аздаблення бялізны, адзення.

*КАРЭНЬЧЫК* (кнігі) — месца згібу і замацавання сшыткаў (лістоў) паміж сабой, а таксама адпаведнае месца ў асобным сшытку ці гатовай кнізе.

*КЛУБОК* — шарападобны маток нітак, шпагату.

*КНІЖНЫ БЛОК* — аддрукаваныя лісты паперы, складзеныя ў сшыткі, падабраныя ў адпаведным парадку і замацаваныя паміж сабой.

*КНОПКА* — род цвіка з круглай шырокай плёшкай, якім прымацоўваюць паперу, тканіну да чаго-небудзь цвёрдага.

*КОНТУР* — абрыс, лінія, якая ачэрчвае форму прадмета.



*КРАВЕЦ* — майстар, спецыяліст па шыццю адзення.

*КРОІЦЬ* — разразаць (матэрыю, скуру, футра) на кавалкі пэўнай формы і памеру, каб пашыць, зрабіць з іх што-небудзь.

*КРУГЛАГУБЦЫ* — абцугі з круглымі канцамі, якія служаць для згібання розных металічных прадметаў.

*КУЛЬТУРА ПРАЦЫ* — сукупнасць уменняў і звычак рацыянальна арганізоўваць сваю працу (ад лац. *cultura* — выхаванне, развіццё, адукацыя).

*КУСАЧКІ* — шчыпцы для адкусвання, адразання дроту, цвікоў.

**Л**

*ЛІНЕЙКА* — планка для вычэрчвання прамых ліній.

*ЛЯКАЛА* — шаблон з кардону, паперы, па якому размячаюць, выразаюць дэталі пры раскрою.

**М**

*МАДЭЛЬ* — узорны экземпляр якога-небудзь новага вырабу.

*МАДЭЛЬЕР* — спецыяліст, які займаецца распрацоўкай эскізнага праекту мадэлі з улікам накіравання моды у адзенні.

*МАЗАІКА* — узор або малюнак з рознакаляровых кавалачкаў шкла, дрэва, мармуру, шчыльна падагнаных адзін да аднаго.

*МАЙСТАР* — кваліфікацыйны работнік, кіраўнік аднаго з структурных падраздзяленняў прадпрыемстваў у якой-небудзь вытворчай вобласці.

*МАЙСТРАВАЦЬ* — рабіць, вырабляць што-небудзь звычайна ручным спосабам.

*МАНТАЖНЫЯ АПЕРАЦЫІ* — злучэнне дэталяў рознымі спосабамі: у папера-карданажнай прамысловасці ў асноўным з дапамогай склейвання і зшывання, у дрэваапрацоўчай — з дапамогай цвікоў, шрубаў, балтоў і клею, у металаапрацоўчай — з дапамогай зваркі, клёпкі, пайкі, вінтоў, гаек. Злучэнне з дапамогай балтоў і гаек з'яўляецца асноўным відам мантажу пры рабоце з канструктарам.

*МАНТАЖНА-ЗБОРАЧНЫЯ АПЕРАЦЫІ* — разнастайныя спосабы злучэння дэталяў у вырабе.

*МЕТКА* — след, які застаўся пасля чаго-небудзь.

**Н**

*НАВЫК* — уменне выконваць мэтанакіраваныя дзеянні, даведзеныя да аўтаматызму ў выніку свядомага шматразовага паўтору адных і тых жа рухаў ці рашэння тыповых задач у вытворчай ці вучэбнай дзейнасці.

*НАЖНІЦЫ* — інструмент для рэзання, стрыжкі, які складаецца з двух накрыж складзеных нажоў з ручкамі ў выглядзе кольцаў.

*НАПАРСТАК* — металічны каўпачок, які надзяваецца на палец пры шыцці для аховы ад уколаў іголкай, а таксама для забеспячэння ўпора іголкі пры праколванні матэрыялаў, прызначаных для сшывання. Можа быць з донцам і без яго.

*НЕАРГАНІЧНЫЯ ПРЫРОДНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ* — гліна, пясок, ракавінкі, галька, мел, а таксама пластылін.

*НІТКА* — тонка скручаная пража; змацоўваючы матэрыял. У залежнасці ад назначэння адрозніваюць ніткі швейныя, вышывальныя, вязальныя і цыравальныя.



*НУМАР ІГЛЫ* — велічыня, якая абазначае таўшчыню ляза іглы. Нумар іглы колькасна роўны дыяметру ляза, выражанаму ў сотых долях міліметра. Напрыклад, ігла N 75 мае дыяметр 0,75 мм.

**П**

*ПАНО* — (ад лац. *pannus* — кавалак тканіны) — карціна, прызначаная для запаўнення пэўных участкаў сцяны.

*ПАПЕРА* — матэрыял для пісьма, друку, малявання, які вырабляецца ў асноўным з раслінных валокнаў, апрацаваных адпаведным спосабам (ад грэч. *papyros* — выраб з раслікы папірусу).

*ПАП'Е-МАШЭ* — "жаваная папера" (франц.) — маса з паперы, разведзеная вадой і клеем, з якой фармуюць розныя вырабы.

*ПАРКАЛЬ* — лёгкая баваўняная аднаколерная або з набіўным малюнкам тканіна.

*ПАСАЦІЖЫ* — ручны слясарны і электра-мантажны інструмент, што аб'ядноўвае ў сабе пласкагубцы, кусачкі, адвёртку і іншыя інструменты.

*ПЕРАПЛЁТНАЯ КРЫШКА* — элемент мастацкага афармлення, часцей за ўсё складаецца з кардонных старонак, захоўвае кнігу ад пашкоджання.

*ПЛАСКАГУБЦЫ* — абцугі, канцы каторых (губы) маюць плоскую ўнутраную паверхню. Выкарыстоўваюцца для захопу і згібання дроту, дробных металічных дэталяў.

*ПРАДЗІЛЬШЧЫЦА* — рабочая прафесія тэкстыльнай прамысловасці.

*ПРАЖА* — ніць, якая складаецца з тэкстыльных валокан, злучаных скручваннем. З пражы вырабляюць тканіну, трыкатаж і г.д.

*ПРАПОРЦЫЯ* — (ад лац. *proportio*) — суразмернасць усіх частак элементаў вырабу, іх адпаведнасць адзін аднаму і пэўныя суадносіны.

*ПРАС* — прылада для гладжання, разгладжвання бялізны, адзення.

*ПРАСАВАЦЬ* — гладзіць прасам.

*ПРАСОЎКА* — спецыяльнае прыстасаванне для апрацоўкі ліній згібу (можа быць пластмасавай, драўлянай).

*ПРАФЕСІЯ* — (ад лац. *professio* ад *profiteor* — аб'яўляю сваёй справай) — род працоўнай дзейнасці, заняткаў, які патрабуе пэўнай падрыхтоўкі.

*ПРАЦА* — мэтазгодная дзейнасць чалавека, накіраваная на відазмяненне і прыстасаванне рэчаў прыроды для задавальнення сваіх патрэб.

*ПЯЛЬЦЫ* — прыстасаванне ў выглядзе дзвюх круглых ці прамавугольных рам, паміж якімі замацоўваецца ў нацягнутым стане матэрыял для ручной ці машыннай вышыўкі з нанесеным малюнкам.

## Р

*РАЗВАРОТ* — дзве сумежныя старонкі разгорнутай кнігі, часопіса, сшытка.

*РАЗМЕТАЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ* — інструменты пры дапамозе якіх разметка выконваецца дакладна (лінейка, алоўак, зугольнік, чарцёжнік, цыркуль.

*РАСЛІННЫЯ ПРЫРОДНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ* — шышкі, жалуды, арэхі, салома, кара, гнуткія галінкі, насенне. Гэтыя матэрыялы выкарыстоўваюць з апрацоўкай ці амаль без апрацоўкі пры вырабе



розных рэчаў: цацак, упрыгожванняў, сувеніраў і г.д.

*РУЧНЫЯ АПЕРАЦЫІ* — аперацыі па злучэнню дэталяў ці частак дэталяў да апрацоўкі на швейнай машыне з выкарыстаннем фастрыгавальнай строчкі: нафастрыгаваць, прышыць, падшыць і інш.

*РЫТМ* — (ад грэч. *rhythmos* — суразмернасць, стройнасць) — раўнамернае чаргаванне фігур — элементаў у арнаменце.

*РЫШЭЛЬЕ* — ручная ці машынная вышыўка з выразаннем тканіны па контуру малюнка. Для вышывання рышэлье прымяняецца машына з зігзагападобнай строчкай ці універсальная машына.

## С

*САЛОМКА* — сухія сцёблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту.

*САСТЫКАВАЦЬ* — злучыць адно з адным.

*СІМЕТРЫЯ* — суразмернасць, суадносіны ў размяшчэнні чаго-небудзь адносна нейкай прамой або пункта.

*СЛІЗУРА* — палоска тканіны ці паперы, прымацаваная да фарзацу для большай трываласці.

*СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ* — (ад лац. *species* — род, від) — від дзейнасці ў рамках адной прафесіі.

*СТАНДАРТ* — прынятыя за аснову ўзор, мадэль, эталон, якім павінна адпавядаць што-небудзь сваім памерам, формай, якасцю і пад.

*СТРОЧКА* — рад паўторных ручных ці машынных сцяжкоў. Строчка можа быць: машыннай ці ручной, прамалінейнай ці зігзагападобнай, злучальнай ці аддзелачнай.

*СТЫЛІЗАВАЦЬ* — змяняць, рабіць прасцейшым.

*СУТАЖ* — тоўстыя, мяккія, бавaўняныя ніці, мулінэ, ірыс, шнур, якія на ўроках працы выкарыстоўваюцца як матэрыял для віцця і пляцення, для рознай апрацоўкі адзення.

*СХЕМА* — чарцёж, на якім умоўнымі графічнымі абазначэннямі паказаны састаўныя часткі вырабу ці ўстаноўкі і злучэнні, ці сувязі паміж імі (ад грэч. *schema* — знешні выгляд, форма, накід).

*СЦЯЖОК* — перапляценне нітак паміж двума праколамі тканіны іголкай. Адрозніваюць машынны і ручны.

*СЫРАВІНА* — прадмет працы, які быў раней падвергнуты ўздзеянню працы і які належыць пераапрацоўцы.

**Т**

*ТАМБУР* — адзін з самых распаўсюджаных відаў мастацкай вышыўкі.

*ТАНІРАВАННЕ* — змены ў афарбоўцы.

*ТАНІРОЎКА* — дэкаратыўная апрацоўка матэрыялу.

*ТКАНІНА* — выраб, атрыманы ў выніку працы на ткацкім станку; матэрыял, матэрыя.

*ТКАЦКАЕ ПЕРАПЛЯЦЕННЕ* — узаемнае перакрыццё ніцей асновы і ўтку.

*ТОН* — у мастацтве якасць, адценне колеру.

*ТРАФАРЭТ* — (ад італ. *traforetto* — прадзіраўленае) — пласціна з выразаным на ёй малюнкам (адтуліна-малюнак). Матэрыялам для трафарэта можа быць жэсць, цэлулоід, чарцёжная папера, тонкі кардон.



*ТЭХНІЧНАЯ КАРТА* — дэталізаваны чарцёж, у якім даецца прадпісанне ходу працоўнага працэсу; карта, у якой даецца інфармацыя аб разметцы разгортак, рэзанні, згібанні, склейванні дэталяў.

*ТЭХНАЛАГІЧНЫ ПРАЦЭС* — выкананне зададзеных аперацый па тэхналагічнай карце; ён дае магчымасць планаваць сваю працу, сфармуляваць пытанні, звязаныя з вырабам матэрыялаў і інструментаў, неабходных для дадзенага вырабу, прадумаць паслядоўнасць выканання тэхналагічных аперацый.

*ТЭХНАЛАГІЧНАЯ АПЕРАЦЫЯ* — гэта аперацыі згінання, рэзання і мантажу.

*ТЭХНІКА* — сукупнасць сродкаў, ствараемых для ажыццяўлення працэсаў вытворчасці і абслугоўвання невытворчых патрэбнасцей грамадства. Прымяняецца з мэтай аблягчэння працы і павышэння яе вытворчасці (ад грэч. *techne* — умельства).

*ТЭХНІЧНЫ МАЛЮНАК* — нагляднае адлюстраванне, выкананае ад рукі, на вока, без дакладнага захавання памераў прадмета.

**У**

*УЛАСЦІВАСЦІ ТКАНІНЫ* — набор прызнакаў адрознення, якія вызначаюць якасць тканіны з улікам яе назначэння. Адрозніваюць фізіка-механічныя, тэхналагічныя і гігіенічныя ўласцівасці.

*УМЕЛЬСТВА* — здольнасць хутка, дакладна і свядома прымяняць на практыцы веды ў працэсе вучэбнай і працоўнай дзейнасці.

*УТОК* — папярочныя ніці, якія пераплятаюцца з асновай і ўтвараюць тканіну.

**Ф**

*ФАКТУРА* — (ад лац. *factura* — апрацоўка, пабудова) — своеасаблівая якасць апрацоўваючага матэрыялу (напр. фактура тканіны — знешні выгляд тканіны, вызначаемы характарам апрацоўкі, пабудовай, перапляценнем ніцей і г.д.).

*ФАРТУХ* — адзенне без рукавоў, каўнера, з брытэлямі, нагруднікамі, якое прызначаецца для засцярогі верхняга і лёгкага адзення ад забруджвання.

*ФЛАНЕЛЬ* — мяккая бавоўняная або шарсцяная тканіна палатнянага перапляцення з двухбаковым начосам.

*ФЛАРЫЗМ* — майстэрства камбінавання засушаных раслін для стварэння карцін.

*ФОН* — колер асноўнага матэрыялу, на якім выконваецца аплікацыя.

*ФОРМА* — знешні контур, вонкавы выгляд, знешняе аблічча прадмета.

*ФУРНІТУРА* — дапаможны матэрыял у якой-небудзь вытворчасці (напрыклад, у швейнай - ніткі, кручкі і інш.).

**Ц**

*ЦЫРКУЛЬ* — інструмент, які складаецца з дзвюх рассоўных ножак і служыць для вычэрчвання акружнасцей і іх дуг, лінейных вымярэнняў і пераносу памераў.

**Ч**

*ЧАРЦЁЖ* — язык тэхнікі; ён дае ўяўленне аб форме, памерах, спосабах апрацоўкі дэталяў.

*ЧАСТАТА СТРОЧКІ* — колькасць сцяжкоў на адзінку даўжыні строчкі.



**Ш**

*ШАБЛОН* — гэта ўзор, па якому вырабляюць роўныя прадметы. Шаблоны ўяўляюць сабой пласціны з контурамі, адпаведнымі па абрысу таму ці іншаму вырабу. Матэрыялам для шаблону можа быць кардон, фанера.

*ШВО* — месца злучэння сшытых кавалкаў тканіны, скуры. Спосаб шыцця, вышыўкі.

*ШТАМПЫ* — (ад італ. *stampa* — пячаць) — гэта штэмпелі з каўчуку, дрэва, лінолеўму, кардону ці іншага матэрыялу з выпуклым адлюстраваннем аддрукоўваемага малюнка.

*ШТОПКА* — заладжванне дзірак, разрываў у тканіне, дэталях вырабаў перапляценнем нітак ручным ці машынным спосабам.

*ШТРЫХ* — лінія, рыска.

**Э**

*ЭЛЕКТРАМАНЦЁР* — рабочы, які абслугоўвае электрычнае абсталяванне, збірае, устанаўлівае і рамантуе яго.

*ЭЛЕКТРАСЛЕСАР* — слесар, які выконвае мантаж, дэмантаж, рамонт, выпрабаванне, наладку электрычных машын, установак, электрарухавікоў і г.д.

*ЭЛЕКТРЫЧНАЯ СХЕМА* — графічны дакумент, у якім з дапамогай умоўных абазначэнняў паказаны элементы электрычнага ланцуга і сувязь паміж імі.

*ЭЛЕКТРЫЧНЫ ТОК* — накіраваны, упарадкаваны рух зараджаных часцінак электронаў, іонаў і інш.

*ЭСКІЗ* — першы, папярэдні накід малюнка для будучага вырабу.

Вучэбнае выданне

ГАГАРЫНА СВЯТЛАНА ФЁДАРАЎНА

ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК
ПА ПРАЦОЎНАМУ НАВУЧАННЮ

Карэктар А.В.Сідарэнка

Падпісана ў друк 23.09.94. Фармат 60x84 1/16.
Папера друк № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,0.
Ум. фарб.-адб. 9,36.
Ул.-выд. арк. 0,8. Тыраж 150 экз. Заказ 975.
Цана 750 р.

Ратапрынт БДПУ. 220809, г.Мінск, вул. Савецкая, 18.



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК
# ПА ПРАЦОЎНАМУ НАВУЧАННЮ

Мінск 1994